— РОЗГАЛАС —

## БУДАЎНІКІ Ў ПТВ ПА-ЗА КОНКУРСАМ

**Меркаванне наконт таго, што сістэма прафесіянальна-тэхнічнага навучання ў нашай краіне цяпер скарачаецца, няправільнае. Як памылковая і думка аб тым, што для паступлення ў прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча вялікага розуму і багатых ведаў не патрабуецца.**

Лепшы таму доказ — высокі конкурс у бягучым годзе ў шэрагу мінскіх вучылішчаў: для таго, каб стаць іх навучэнцамі, абітурыентам патрэбен быў добры атэстат, сярэдні бал якога — 4,6. Асаблівая цікавасць учарашніх выпускнікоў школ да будаўнічых спецыяльнасцей і спецыяльнасцей сферы абслугоўвання, безумоўна, тлумачыцца патрабаваннямі нашага часу і магчымасцю ўладкавацца пасля вучобы на высокааплатную працу. А вось беларускія прадпрыемствы і заводы, якія прастойваюць у бяздзеянні, прывялі да падзення прэстыжнасці спецыяльнасцей машынабудаўнічага профілю.

Усяго ж сёлета ў 32 мінскія прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы было прынята 7 тысяч навучэнцаў (г. зн. паказчык застаўся на ўзроўні мінулага года), якія будуць асвойваць 127 прафесій. Варты ўвагі той факт, што ў будучым навучальным годзе ў сталічных ПТВ будуць дзейнічаць таксама групы для глуханямых і дзяцей з інтэрнатаў, якія цяпер таксама змогуць набыць спецыяльнасць. А вось на пытанне, ці не пагражае беспрацоўе сённяшнім навучэнцам ПТВ пасля заканчэння вучобы, наўрад ці можна даць пэўны адказ. Сёлета працаўладкавацца змаглі 87 працэнтаў учарашніх выпускнікоў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## У ДРЫБІНЕ — НОВЫ КІРАЎНІК

**На праведзенай 30 жніўня сесіі Дрыбінскага раённага Савета дэпутаты аднагалосна зацвердзілі старшынёй райвыканкома Уладзіміра Конанава, кандыдатуру якога прапанаваў старшыня аблвыканкома Аляксандр Кулічкоў.**

Новаму кіраўніку мясцовай «вертыкалі» улады сорак пяць гадоў. Ён скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, атрымаўшы спецыяльнасць інжынера-механіка. Працаваў механікам у меліярацыйных арганізацыях, галоўным інжынерам і старшынёй калгаса, першым намеснікам старшыні савета раённага аграпрамысловага аб'яднання і старшынёй райвыканкома. У апошнія гады быў кіраўніком сельскагаспадарчага акцыянернага таварыства «Ніва» Шклоўскага раёна.

Напомнім, што ўсё ранейшае кіраўніцтва Дрыбінскага райвыканкома Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка вызваліў ад работы за буйныя недахопы ў будаўніцтве пасёлкаў і разбазарванне жылля для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## НОВЫ ТЫП СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ АЎТАМЕХАНІКА Ў БАБРУЙСКУ

**Напярэдадні 1 верасня ў Бабруйску на базе аўтамеханічнага тэхнікума адкрыўся беларуска-нямецкі мадэльны цэнтр па падрыхтоўцы спецыялістаў-аўтамеханікаў.**

Ён быў створаны пры садзейнічанні федэральнага міністэрства адукацыі, навукі, даследванняў і тэхналогій у рамках праграмы ўрада Германіі па аказанню эканамічна-кансультатыўнай дапамогі краінам Усходняй Еўропы «Трансформ». Не апошнюю ролю ў адкрыцці цэнтра адыграла супрацоўніцтва нямецкіх калег з беларускім міністэрствам адукацыі.

З новага навучальнага года ў мадэльным цэнтры, які мае сучаснае абсталяванне, пачнецца трохгадовае навучанне юнакоў па новай для Беларусі спецыяльнасці — аўтамеханік (тэхнік) — менеджэр. Гэты тып спецыяльнасці распрацаваны выкладчыкамі бабруйскага тэхнікума сумесна з супрацоўнікамі інстытута адукацыі Фальксваген ГМбх і ААТ «Фальксваген Трэнінг-цэнтр» пад навуковым кіраўніцтвам Беларускага рэспубліканскага інстытута прафесіянальнай адукацыі і аналагічнага нямецкага федэральнага інстытута.

З нагоды адкрыцця цэнтра Бернд Нойман, парламенцкі дзяржсакратар пры федэральным міністры адукацыі, навукі, даследаванняў і тэхналогій, заявіў, што яго краіна хацела б падтрымаць працэс пабудовы эфектыўнай сістэмы прафесіянальнай адукацыі ў Беларусі.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## «САТУРН» НАБІРАЕ ВЫШЫНЮ

**Шматлікім выпускнікам знакамітай у рэспубліцы і за яе межамі навучальнай міліцэйскай установы знаёма гэта назва.**

На працягу без малога пяцідзесяці гадоў вучэбны цэнтр МУС рэспублікі выпускае міліцэйскія кадры першапачатковага звяна. Са сцен навучальнай установы, якая разбудавалася і ўзмацнела, атрымалі пуцёўку ў жыццё дзесяткі і сотні сяржантаў і афіцэраў. Сёлета, напярэдадні восені, вучэбны цэнтр атрымаў новы статус. Адпаведна з пастановай Кабінета Міністраў ён пераўтвораны ў спецыяльную школу міліцыі, якая будзе выпускаць юрыстаў сярэдняй кваліфікацыі.

Як паведаміў у гутарцы выконваючы абавязкі намеснік начальніка міліцэйскай кузні кадраў капітан Міхаіл Карповіч, школа плануе штогод выпускаць каля 300 афіцэраў, пераважна ўчастковых інспектараў. Акрамя таго, яна захоўвае за сабой функцыі па першачарговай падрыхтоўцы сяржантаў і перавучобе афіцэраў для органаў унутраных спраў і падраздзяленняў рэспублікі.

**Аляксандр ДЗЕРАВЯНКА.**

# СТАРАВОЙТАЎ ПЕРАКАНАНЫ: КАЛІ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ РЫНАК, ТО І НАШАЙ КРАІНЕ ТОЛЬКІ ПА ГЭТАМУ ШЛЯХУ І ІСЦІ

Каму і што расказваць пра Васіля Старавойтава і яго «Рассвет»? Расказана ўжо тысячу разоў і дагэтуль. Зняты фільм. Напісаны кнігі. Здымаецца новы фільм. Быў Старавойтаў бальшавіком і камуністам, стаў, на думку некаторых, рэнегатам і здраднікам. Зрэшты, пра Старавойтава — ні слова. Толькі — яго словы пра тое, што здарылася з «Рассветам» у апошнія гады. А даведацца аб гэтым удалося дзякуючы наладжанаму Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання і Нацыянальным прэс-цэнтрам журналісцкаму семінару. Месца правядзення — закрытае акцыянернае таварыства «Рассвет» у Кіраўскім раёне. Тэма — рэфарміраванне ў аграпрамысловым комплексе.

Зразумелая справа, міністр Васіль Лявонаў не проста так павёз журналістаў якраз у «Рассвет». Па перакананню міністра, якраз у гаспадарцы Старавойтава рэформа амаль што ажыццявілася. Чаму «амаль што»? Апошняя кропка як адказ на гэтае пытанне — напрыканцы размовы.

Якая ж рэформа ажыццявілася ў славута вядомым калгасе? Не развальваючы магутную сацыялістычную (па колішняму ўзроўню жыцця на фоне астатняй калгаснай Беларусі «Рассвет» можна і камуністычным назваць. Сумленна аддаючы свае сілы полю і ферме, «рассветаўцы» мелі на ўласных падворках аўтамабілі. Адпачывалі на калгаснай базе ў Анапе за 300 метраў ад самага Чорнага мора. Не гадуючы — на вёсцы! — кароў, пілі — і зараз п'юць! — удосталь сырадой) гаспадарку, Старавойтаў, змяніўшы эканамічны характар гаспадарання, прывёў «Рассвет» у капіталізм. Мяркуйце самі. Сёння «Рассвет» — закрытае акцыянернае таварыства. Асноўныя фонды, што складалі сферу сельскагаспадарчай вытворчасці, падзялілі на колькасць акцыянераў — на 2242 чалавекі. У цэнах 1995 года асноўныя фонды ў грашовым вымярэнні былі роўныя 40 мільярдам рублёў. На раздзел паўплывалі стаж, заработная плата кожнага патэнцыяльнага акцыянера. У выніку людзі атрымалі свае акцыі. Забягаючы наперад, заўважу: некалькіх соцень акцыянераў «Рассвет» згубіў. Прычыны? Людзям патрэбны былі грошы. Каму — на будаўніцтва дома. Каму захацелася набыць жаданы тэлевізар і назіраць капіталізм на блакітным экране. Сёй-той паклаў на шалі вагаў акцыі і бутэльку (рэальную!), а дакладней — некалькі скрынак «Сталічнай» ці іншай «белай». Нaўрад ці баль працягваецца і сёння. Калі грошы на цябе не працуюць, то і бутэльку з малым дастаткам купіш радзей. Хто яны зараз — людзі, якія пажадалі не губляць «призрачное» ўчарашняе сацыялістычнае шчасце? Проста работнікі. Без акцый, а значыць — без дывідэндаў. Без перспектывы разбагацець. Апошняга адным уласным гарбом дасягнуць цяжка. Патрэбна яшчэ і галава на плячах.

Асноўныя фонды прамысловасці (а ў «Рассвеце» магутная перапрацоўчая галіна) не дзялілі, а прадалі. 700 (заўважце, ужо 700, а не 2242. Яно і зразумела — трэба было не толькі адолець жаданне не забіраць з калгаса пэўную капейчыну, але ж нешта яшчэ і ўкласці) чалавек выкупілі маёмасці на 30 мільярдаў рублёў. Асабіста Старавойтаў уклаў грошы (зняўшы іх з ашчаднай кніжкі, прадаўшы тэлевізар, «відзік» і два магнітафоны) у розныя прадпрыемствы. Атрымаўшы ва ўласнасць каштоўныя паперы, людзі займелі права падарыць іх, перадаць у спадчыну. Запрацавалі неўпрыкмет новыя, невядомыя дагэтуль на практыцы эканамічныя законы.

«Рассветаўцы» (многія, магчыма, і самі таго не жадаючы) сталі рыначнікамі. Але ж гэта адзін бок справы. Капіталізацыя (ці — рэфарміраванне ў бок змены формы ўласнасці) сама па сабе наўрад ці многае значыць. Падзяліце асноўныя фонды (а перапрацоўчай прамысловасцю ў сотнях гаспадарак і не пахне) сельскагаспадарчай вытворчасці — і што далей? Думаю, не памылюся, калі скажу: не будзе там па-ранейшаму зарплаты, не будзе і дывідэндаў. Адкуль жа ім узяцца?

«Рассвет» — іншая справа. Працуючых тут сёння 1240 чалавек. Сярэднямесячная зарплата роўная 900 тысячам рублёў. Старавойтаў лічыць, што мала. Але ж параўнайце з астатнімі гаспадаркамі раёна у «Рассвеце» у 1,5 раза болей. Да таго ж дывідэнды. Яны складаюць даволі немалы прыбытак кожнага акцыянера. Працуюць жа ў гаспадарцы грошы яшчэ і ў банках. У свой час быў створаны філіял «Прыорбанка». Яго статутны фонд роўны 1 мільярду 200 мільёнам рублёў. Збіралі грошы 1500 чалавек. Яны ж пасля стварылі і самастойны банк (і маюць там 1,5 мільярда рублёў). Ідзе свайго роду працэс фінансавага накаплення капіталу.

І ўсё ж вернемся ці не да галоўнага пытання. Адкуль бяруцца грошы? Які вытворчы працэс дзеецца ў гаспадарцы? Эканоміка павінна быць эканомнай. Тысячу разоў паўтараючы гэты пастулат, мы мала што змянілі ў сапраўднасці. «Рассвет» змяніў. Эканомія энергарэсурсаў, жорсткі гаспадарчы разлік. Як усё гэта дзейнічае ў акцыянерным таварыстве? 58 падраздзяленняў маюць у банку свае рахункі, маюць бухгалтара і сваю пячатку. За ўсё разлічваюцца. І самі таксама за ўсё патрабуюць аплаты. Тут варта заўважыць наступнае. Адны з гэтых 58 зарабляюць грошы. Іншыя — банкруты, знаходзяцца на картатэцы. Як бачыце, «Рассвет» у гэтым не такі ўжо далёкі ад усёй астатняй Беларусі. У акцыянерным таварыстве, як і паўсюдна, скарачаецца продаж жывёлагадоўчай, у прыватнасці, прадукцыі. За гэта — частыя папрокі. Але ж па-ранейшаму «Рассвет» — лідэр, калі мець на ўвазе, напрыклад, малако. У 1995 годзе ў раёне кожны 4-ы літр малака быў з «Рассвета». Сёлета гаспадарка здае 30,2 працэнта ад усёй малочнай прадукцыі раёна. Дойны статак гаспадаркі — 1600 кароў. Старавойтаў перакананы: кароў павінна застацца 1000. А вытворчасць малака будзе на ранейшым узроўні. Скараціць колькасць кароў, павысіць колькасць кармоў — вось эфектыўны механізм змен. Шырыцца раслінаводчая сфера. Збожжа стала вырошчваць выгадна. А рынак жа выгады і патрабуе.

Выжываць, набіраць ход, хуткасць, ісці ўгору, не губляць марку «Рассвета» дапамагае багатая перапрацоўчая сфера. Свая цяпліца і свой пладаагародніны цэх. Свая камбікормавая вытворчасць. Цэх па вытворчасці плёнкі. Дрэваапрацоўчы цэх... «Рассветаўцы» шукаюць на чым зарабіць. Клопат зразумелы і правільны.

А што ж асабіста Старавойтаў Васіль Канстанцінавіч, старшыня праўлення закрытага акцыянернага таварыства «Рассвет»? Як і павінна быць, ён думае пра перспектыву. І планы, праекты свае выбудоўвае ў адпаведнасці з перакананнем: зваротнага шляху няма. Толькі — наперад. Толькі рыначнае рэфарміраванне — такі выбар падказвае багаты жыццёвы, старшынёўскі вопыт.

І апошні штрых. Міністр Васіль Лявонаў, відавочна, задаволены рэфарміраваннем «Рассвета», падзяліўся напрыканцы журналісцкага семінара такім назіраннем. Старавойтаў знаходзіцца на мяжы пазбаўлення таварыства закрытасці. Адважыцца Васіль Канстанцінавіч зрабіць гэты крок альбо не? Ці здолее Старавойтаў працягваць аднойчы выбраны курс? І што, дарэчы, гэта дасць? Інвестыцыі, новы віток вытворчага развіцця?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 255РП

### АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА СВЯТКАВАННЯ 75-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА

1. Прыняць да ведама і адобрыць унесеныя Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь у сувязі з падрыхтоўкай да святкавання 75-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта прапановы па:

выдзяленню сродкаў на выданне 30 навуковых манаграфій, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, падрыхтаваных работнікамі гэтага універсітэта;

дадатковаму выдзяленню універсітэту 7 млрд. рублёў на фінансаванне капітальнага рамонту ў 1996 годзе;

выдзяленню сродкаў у памеры, не меншым за месячны фонд заработнай платы універсітэта, на матэрыяльнае заахвочванне яго работнікаў;

прадстаўленню работнікаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта да прысваення ганаровых званняў, узнагароджання медалём Францыска Скарыны і іншымі дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь.

2. Мінфіну выдзеліць Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 14 млрд. рублёў на завяршэнне рэканструкцыі будынка фізічнага факультэта.

3. Даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Мінадукацыі распрацаваць і зацвердзіць план мерапрыемстваў па святкаванню 75-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*29 жніўня 1996 г., г. Мінск.*

## Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ ПРАВЯДЗЕННІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

1. Унесці на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанне аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету ўключыць у бюлетэнь для тайнага галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме наступныя пытанні, прапанаваныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь:

2.1. Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.

2.2. Ці выступаеце Вы за свабодныя, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?

2.3. Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь?

У адпаведнасці з артыкуламі 1, 14 і 39 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» пытанне, прадугледжанае пунктам 2.1, вынесці на абавязковы рэферэндум, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым і мае абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пытанні, прадугледжаныя пунктамі 2.2 і 2.3, — на кансультатыўны рэферэндум, рашэнне якога мае рэкамендацыйны характар.

3. Пытанне аб уключэнні ў бюлетэнь для галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме «Аб прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь)» разгледзець у Вярхоўным Савеце пасля прадстаўлення Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь тэксту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які выносіцца на рэферэндум.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*27 жніўня 1996 г., г. Мінск.*
*№ 522-XIII*

— *АФІЦЫЙНА* —

## Пастанова Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь

*№ 572*

**Аб зацвярджэнні Палажэння аб Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 года**

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **п а с т а н а ў л я е:**

Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 года.

*29 жніўня 1996 г., г. Мінск.*

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

*ЗАЦВЕРДЖАНА*
*пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29 жніўня 1996 г. № 572*

## П А Л А Ж Э Н Н Е

### аб Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 года

1. Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 года (далей — Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу) створана для кантролю за ходам выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 1996 г. № 47 «Аб правядзенні ў 1999 годзе перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь» і Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 мая 1996 г. № 297 «Аб падрыхтоўцы і правядзенні ў 1999 годзе чарговага перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь».

2. Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу ў сваёй дзейнасці кіруецца дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а таксама гэтым Палажэннем.

3. Асноўнымі задачамі Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу з'яўляюцца:

каардынацыя дзейнасці міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, іншых цэнтральных органаў кіравання, а таксама мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў па пытаннях перапісу насельніцтва, выкананню намечаных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню неадкладных першачарговых работ, звязаных з арганізацыяй перапісу;

аказанне практычнай дапамогі мясцовым выканаўчым і распарадчым органам рэспублікі, а таксама органам дзяржаўнай статыстыкі ў падрыхтоўцы і арганізаваным правядзенні перапісу.

4. Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу на сваіх пасяджэннях разглядае:

прапановы па зместу перапіснага ліста перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 года, а таксама дадатковага пераліку пытанняў бланка выбарачнага (25 працэнтаў) апытання насельніцтва па асноўных паказчыках, якія характарызуюць узровень жыцця насельніцтва;

мерапрыемствы і каляндарны план па падрыхтоўцы і правядзенню ў 1999 годзе перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь;

асноўныя арганізацыйна-метадалагічныя палажэнні праграмы перапісу насельніцтва 1999 года;

праекты штогадовых каштарысаў расходаў на падрыхтоўку, правядзенне перапісу насельніцтва 1999 года, а таксама на распрацоўку яе матэрыялаў.

5. Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу мае правы:

заслухоўваць паведамленні міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, іншых цэнтральных органаў кіравання па пытаннях падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва;

заслухоўваць справаздачы абласных камісій садзейнічання перапісу насельніцтва;

па пытаннях, якія патрабуюць канчатковага рашэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь або ўрада, уносіць ва ўстаноўленым парадку ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем перапісу насельніцтва.

6. Рашэнні Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу, якія прымаюцца па пытаннях, што ўваходзяць у яе кампетэнцыю, з'яўляюцца абавязковымі. Яны афармляюцца пратаколамі і паведамляюцца ўсім зацікаўленым.

7. Дзейнасць Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу праводзіцца ў адпаведнасці з зацверджанымі ёю планамі работы.

8. Пасяджэнні Рэспубліканскай камісіі садзейнічання перапісу праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей чым адзін раз у квартал.

9. На пасяджэнні могуць быць запрошаны адказныя работнікі міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, іншых цэнтральных органаў кіравання, навуковых і іншых устаноў, звязаныя з пытаннямі перапісу.

10. Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу ў сваёй рабоце падсправаздачная Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь.

11. Рэспубліканская камісія садзейнічання перапісу дзейнічае на працягу ўсяго перыяду падрыхтоўкі і правядзення перапісу насельніцтва ў рэспубліцы.

## *«ЗВЯЗДЗЕ» АДКАЗВАЮЦЬ:*

### Праўленне Белспажыўсаюза

Праўленне Белспажыўсаюза ўважліва разгледзела надрукаваны 2 ліпеня 1996 г. у газеце «Звязда» адкрыты ліст Савета дырэктараў выдавецтва «Ці можа вёска жыць без кнігі?» і паведамляе, што таксама занепакоена станам спраў у сельскім кніжным гандлі, таму 26 снежня 1995 г. былі зацверджаны «Мерапрыемствы па развіццю кніжнага гандлю ў сістэме спажывецкай кааперацыі рэспублікі на 1996 год».

Дакументам прадугледжаны накірунак на захаванне стацыянарнай гандлёвай сеткі ў райцэнтрах і пасёлках гарадскога тыпу, а там, дзе сельскія кнігарні з-за іх стратнасці закрываюцца, узамен у абавязковым парадку адкрываюцца аддзелы па гандлю друкаванымі выданнямі ва універмагах, культмагах і іншых спецыялізаваных магазінах.

Акрамя таго, літаратура рэгулярна завозіцца на кніжныя паліцы, размешчаныя ў магазінах «Тавары штодзённага попыту» на цэнтральных сядзібах калгасаў і саўгасаў, якіх налічваецца каля тысячы.

Для хутчэйшай дастаўкі кніг сельскім пакупнікам са студзеня б. г. кніжны гандаль спажывецкай кааперацыі пераведзены на прамыя сувязі з дзяржаўнымі выдавецтвамі. Гэта спрыяла таксама спрашчэнню ўзаемаразлікаў і іх тэрмінаў. Каб паскорыць абарачальнасць друкаваных выданняў, яны завозяцца ў раёны па папярэдніх заяўках і асабістых падборках спецыялістаў.

**Першы намеснік старшыні праўлення Беларускага Рэспубліканскага Саюза спажывецкіх таварыстваў М. ПЕТРЫШЭНКА.**

### Упраўленне камунальных прадпрыемстваў Магілёўскага гарвыканкома

***Выконваючы абавязкі начальніка В. Цыкуноў на артыкул «Пакупацца ў рэчцы», апублікаваны ў газеце «Звязда» 8.06.96 г. аб гатоўнасці Магілёва да купальнага сезона паведамляе:***

— Прадпрыемствам па азеляненню і воднай гаспадарцы прыняты шэраг мераў па добраўпарадкаванню гарадскіх пляжаў да летняга сезона 1996 года. Так, на пляжы Пячорскага вадасховішча ўстаноўлены лаўкі, лежакі, урны для смецця, тэрыторыя ўтрымліваецца ў здавальняючым санітарным стане.

На пляжы Грабянёўскага вадасховішча ўстаноўлены 5 кабін для пераапранання, 5 «грыбкоў», лаўкі, функцыянуюць фантанчыкі з пітной вадой, тут працуе штатны прыбіральшчык.

Для даабсталявання Цэнтральнага пляжа дадзены заказ дарожна-маставому прадпрыемству вырабіць 10 кабін для пераапранання, столькі ж «грыбкоў», 30 лавак.

— *УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ* —



# НАРАДЖЭННЕ ГОНАРУ

***(Заканчэнне. Пачатак у нумары за 3 верасня).***

**А ў вёсцы Лаўрышава адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Святому Елісею Лаўрышаўскаму. Помнік асвяцілі жыватворным агнём ад Гроба Гасподня.**

**І яшчэ адно месца ўрачыстасцей — гарадскі пасёлак Любча, дзе ладзілі «Свята друкара».**

Усялякае свята, усялякія ўрачыстасці, безумоўна, задаюць настрой гасцям, самім удзельнікам. Падслуханыя на вуліцах Навагрудка размовы, прызнацца, напачатку задалі мне настрой зусім песімістычны. Па-першае, шмат хто з навагрудчан і ведаць не ведаў, з чаго б гэта тут, на галоўнай плошчы горада, ладзіцца сцэна, з чаго б гэта так шмат наўкола міліцыі. Па-другое, чашу суму напоўніла і рэдкая прысутнасць беларускай кнігі сярод бліскучых вокладак іншай патрэбнай літаратуры. Ды і людзі не надта хутка напаўнялі плошчу. Але свята тым часам, нягледзячы на мой прыватна-суб'ектыўны мінор, ішло, развівалася. Большала людзей. На сцэну пасля адпаведных прамоў (а іх растучаму натоўпу адрасавалі старшыня Навагрудскага гарвыканкома Георгій Бака, старшыня Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Уладзімір Бельскі, мітрапаліт Філарэт, Старшыня Вярхоўнага Савета краіны Сямён Шарэцкі) прыйшлі артысты ў абліччы славутых людзей зямлі беларускай. Прыгожыя касцюмы, гісторыяй выпісаныя, выпакутаваныя словы нараджалі ў душы і сэрцы зярняткі гонару. За Беларусь. За краіну.

Пасля ўрачыстых прамоў задаў некалькі пытанняў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёну Шарэцкаму.

*— Што ёсць для вас асабіста Свята беларускага пісьменства і друку?*

— Для мяне гэта свята асаблівае. Справа ў тым, што гэта свята не проста пісьменства і друку. Гэта — свята нашай гісторыі, наогул багатай гісторыі беларускага народа. Мне прыемна, што сёлета яно праходзіць у маім родным раёне, у маёй роднай вёсцы, дзе калісьці Войшалк, другі князь Навагрудскі, сын Міндоўга, заснаваў манастыр. Сёння мы адкрываем там помнік Елісею, прападобнаму ігумену Лаўрышаўскаму.

...На свяце, наладжаным Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку, Навагрудскімі гарвыканкомам і райвыканкомам, — высокія госці. Ёсць і паслы — Украіны і Літвы. А выступленне Мітрапаліта Філарэта — сапраўдны даклад па гісторыі беларускага пісьменства. І яшчэ некаторыя мае сумненні развеялі кароткія гутаркі з беларускімі пісьменнікамі (а на свяце былі Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава, Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Карызна, Міхась Скобла, Лідзія Савік, Уладзімір Конан.

— Я шчаслівая вось чым, — заўважыла Вольга Іпатава, — святы адбываюцца на гістарычных землях. Ідзе вялікая праца па аднаўленню нашай спадчыны. А быў жа час, калі праца па адраджэнню сустракала шалёнае супраціўленне. Менавіта гістарычная памяць, яе аднаўленне — першы крок для набыцця народам сваёй незалежнасці.

Пра галоўнае, першаснае, як мне падаецца, свята ў жыцці пісьменнікаў гутарылі мы і з Леанідам Дранько-Майсюком.

— Ёсць адна асаблівасць, пра якую мы гаворым з іншым адценнем, чым, мусіць, трэба было б. З пісьменствам на Беларусі я не бачу ніякіх праблем, — вынес свой вердыкт паэт.

*— І гэта гаворыць інтэлігент, якому лепш чым астатнім, відаць сітуацыя з гібеннем беларускай мовы?..*

— Так, з пісьменствам ніякіх праблем. На Беларусі пісалі і будуць пісаць. І ўсё будзе цудоўна. Наша мова не знікне. Праблема з друкам — ці будуць друкаваць...

*— Вы сапраўды аптыміст...*

— Я працую ў выдавецтве. І кожны дзень да мяне прыходзяць дзесяць юных празаікаў і дзесяць юных паэтаў. І ўсе гэтыя людзі пішуць па-беларуску. І гэта тая трава, якую не выкасіш. Выкасіш — вырасце пасля атава. Трэба спадзявацца, што людзі, ад якіх усё гэта залежыць, зробяць усё, каб паміж пісьменствам і друкам была раўнавага.

Святкаваў і народ. Перакanала нас у гэтым сустрэча ў Любчы. Прафесіянальныя і самадзейныя артысты, дзядок-гарманіст, проста аматары павесяліцца, коннікі і рыцары — усё перамяшалася. Перамяшалася, але не пакацілася кулём з гары над Нёманам. Намеснік старшыні Навагрудскага райвыканкома Фёдар Мікульчык прычыну бачыць у наступным:

*— Шчырыя і шчодрыя людзі ў нас. Умеюць працаваць, умеюць весяліцца. І рупяцца, асабліва апошнім часам, пра свае карані. Перагарніце старонкі толькі што выдадзенай кнігі «Памяць. Навагрудскі раён» — і вы зразумееце, на якой дзіўнай зямлі адбываецца свята. А калі гаварыць пра Любчу, то гэтая частка ўрачыстасцей стала магчымай дзякуючы старшыні калгаса «Прынёманскі» Уладзіміру Кулаку, старшыні Любчанскага пасялковага Савета Аляксандру Машчару, намесніку дырэктара Любчанскай сярэдняй школы Марыі Машчар.*

Свята прайшло. Што застаецца пасля яго, на будучыню? Вось як адказаў на гэтае пытанне рэжысёр свята ў Любчы Мікола Макарцоў:

*— Думаю, што прысутнасць свята ў жыцці навагрудчан застанецца. Прыгожыя душой, гэтыя людзі змогуць разбагацець і на ўсведамленне сваёй гісторыі, на разуменне месца сваёй зямлі ў сучасным і мінулым Беларусі.*

Тут можна паверыць не толькі на слова. На Навагрудчыне, як заўважыў старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, пра катэгорыю памяці дбаюць заўжды. Вось зараз рыхтуюцца да 200-годдзя Адама Міцкевіча. Рэстаўрыруецца маёнтак, у якім ён жыў. У планах (рупіцца аб гэтым і старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі) — узвядзенне помніка Міндоўгу на гары Міндоўга.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*На здымках: вёска Лаўрышава ў дзень свята.*

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# СА СПАДЗЯВАННЕМ НА БУДУЧАЕ ФОТААДКРЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ

Жывучы ў асобна ўзятых гарадах і вёсках, мы мала ведаем сваю краіну. Не ў кожнага з нас, не ў кожнай душы праведзены беларускі экватар ці беларускі мерыдыян (справа не ў назве — галоўнае ў тым, ці ёсць стрыжань беларускасці, любові і ведання Айчыны).

Такія думкі напаткалі, калі давялося пабыць сведкам і гледачом, нераўнадушным сузіральнікам адкрыцця выстаўкі фатаграфічных работ «Беларусь мая: гісторыя і сучаснасць» у грамадскім прэс-цэнтры Беларускага Дома прэсы. Сустрэча з творчасцю рэпарцёраў, ды і мастакоў рэчаіснасці адбылася напярэдадні адкрыцця свята беларускага пісьменства і друку. Майстроў Яе Вялікасці Фатаграфіі вітаў першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Зіновій Прыгодзіч. Нам, звяздоўцам, прыемна, што Зіновій Кірылавіч сярод іншых работ хваліў рэпартаж — духоўны па змесце і фатаграфічнай інтанацыі — нашага калегі Яўгена Пясецкага «Дарогі да святыняў».

А ёсць жа на выстаўцы работы і другога «звяздоўца» — старэйшага фотажурналіста Беларусі Мікалая Амельчанкі.

У каментарыі да выставы слушныя думкі прагучалі з вуснаў Зіновія Прыгодзіча:

— А чаму б выстаўку не зрабіць традыцыйнай? Чаму б не наладзіць фотасалон, які б месяц-два прадстаўляў творчасць аднаго фотамастака, пасля — другога...

Мо словы дзяржаўнага чалавека і рэалізуюцца. І ўжо да наступнага свята беларускага пісьменства і друку мы адкрыем Беларусь, яе ўчарашняе і сённяшняе вачыма Юрыя Іванова, Аляксандра Талочкі, Марыі Жылінскай... і шмат яшчэ каго, чые здымкі, раскіданыя па перыёдыцы, не знікаюць з памяці, калі нават губляецца сярод іншых папер тая ці іншая пажоўклая газета.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ*

# Работа па сумяшчальніцтву і штогадовы адпачынак

*Я працую на заводзе інжынерам. Хацеў паступіць на іншае прадпрыемства на работу па сумяшчальніцтву электрыкам. Там згодны ўзяць мяне, але сказалі, каб я прынёс дазвол з асноўнага месца работы. А на асноўнай рабоце такога дазволу не даюць.*

*У сувязі з гэтым прашу даць тлумачэнне па наступных пытаннях:*

*1. Ці патрэбны нейкі дазвол з асноўнага месца работы для работы па сумяшчальніцтву на іншым прадпрыемстве? І наогул, які парадак прыёму на работу па сумяшчальніцтву?*

*2. Якая працягласць работы па сумяшчальніцтву?*

*3. Які водпуск прадастаўляецца працуючым па сумяшчальніцтву: аплатны ці неаплатны і якой працягласці?*

**М. Дрозд.**

*Баранавічы.*

Цяпер усе пытанні работы па сумяшчальніцтву рэгулююцца дзеючымі Пастановай Савета Міністраў СССР ад 22 верасня 1988 г. № 1111 «Аб рабоце па сумяшчальніцтву» і Палажэннем аб умовах работы па сумяшчальніцтву, зацверджаным пастановай Дзяржкампрацы, Міністэрствам юстыцыі і Сакратарыятам ВЦСПС ад 9 сакавіка 1989 года.

Работа па сумяшчальніцтву дазваляецца рабочым і служачым як на адным прадпрыемстве (аб'яднанні), ва ўстанове, арганізацыі — па месцы іх асноўнай работы, так і на іншым прадпрыемстве (аб'яднанні), ва ўстанове, арганізацыі.

Для работы па сумяшчальніцтву згоды наймальніка і прафсаюзнага камітэта па асноўным месцы работы не патрабуецца.

Кіраўнікі прадпрыемстваў (аб'яднанняў), устаноў, арганізацый разам з прафсаюзнымі камітэтамі могуць уводзіць абмежаванні на сумяшчальніцтва толькі ў адносінах да работнікаў асобных прафесій і пасад з асаблівымі ўмовамі і рэжымам працы, дадатковая работа якіх можа пацягнуць за сабой наступствы, што адбіваюцца на стане іх здароўя ці бяспецы вытворчасці. Абмежаванні таксама распаўсюджваюцца на асоб, якія не дасягнулі 18 гадоў, і цяжарных жанчын.

Работнік, які паступіў на работу па сумяшчальніцтву на іншае прадпрыемства, ва ўстанову, арганізацыю, абавязаны прад'явіць наймальніку пашпарт. Пры прыёме на работу, якая патрабуе спецыяльных ведаў, наймальнік мае права патрабаваць, а работнік абавязаны прад'явіць дыплом ці іншы дакумент аб атрыманай адукацыі ці прафесіянальнай падрыхтоўцы.

Працягласць работы па сумяшчальніцтву не можа перавышаць чатырох гадзін у дзень ці поўнага рабочага дня ў выхадны дзень. На асобных відах работ, дзе па ўмовах вытворчасці (работы) не можа быць захавана ўстаноўленая для сумяшчальнікаў штодзённая (4 гадзіны) працягласць рабочага часу, дапускаецца па ўзгадненню з прафсаюзным камітэтам прадпрыемства, установы, арганізацыі ўвядзенне падсумаванага ўліку рабочага часу.

Агульная працягласць работы па сумяшчальніцтву на працягу месяца не павінна перавышаць паловы месячнай нормы рабочага часу, устаноўленай для адпаведных катэгорый работнікаў. Работа па сумяшчальніцтву ў межах месячнай нормы рабочага часу дазваляецца толькі тым, хто на 22 верасня 1988 года быў заняты на рабоце па сумяшчальніцтву з такой працягласцю рабочага часу. Пры пераходзе ўказаных работнікаў на іншую работу па сумяшчальніцтву на іх распаўсюджваецца агульнае правіла.

Водпуск на рабоце па сумяшчальніцтву прадастаўляецца адначасова з водпускам на асноўнай рабоце. Аплата за водпуск ці выплата кампенсацыі за нявыкарыстаны водпуск робіцца сумяшчальнікам, якія выконваюць работу па рабочых прафесіях, а таксама працуючым па спецыяльнасці настаўнікам і выкладчыкам школ, сярэдніх спецыяльных, прафесіянальна-тэхнічных і іншых навучальных устаноў, педагагічным работнікам дашкольных, пазашкольных і іншых дзіцячых устаноў, медыцынскім і фармацэўтычным работнікам ва ўстановах аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння.

Для асобных катэгорый работнікаў (настаўнікаў, выкладчыкаў, выхавальнікаў, канцэртмайстраў і акампаніятараў школ, сярэдніх спецыяльных, прафесіянальна-тэхнічных і іншых навучальных устаноў, педагагічных работнікаў дашкольных, пазашкольных і іншых дзіцячых устаноў, устаноў аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння, устаноў культуры і мастацтваў, медыцынскіх і фармацэўтычных работнікаў, трэнераў і кіраўнікоў гурткоў, выкладчыкаў (урачоў і правізараў), лабарантаў медыцынскіх кафедраў вышэйшых навучальных устаноў, малодшага медыцынскага персаналу і некаторых іншых) захоўваюцца некаторыя асаблівасці рэгулявання іх работы па сумяшчальніцтву.

**Віктар ДАМАШЭВІЧ, галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Савета Федэрацыі прафсаюзаў.**

# Сядзіба

**Выпуск № 329** **Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

## Час садзіць...«алоўкі»

Не здзіўляйцеся, не школьныя. Настала пара размнажэння чорнай парэчкі. З сёлетніх парасткаў — гонкіх, тоўсценькіх, бы школьны аловак, нарыхтоўваем адрэзкі, у якіх не менш як тры пупышкі. Зрэз верхні — над самай пупышкай. Унізе можа быць камялёк. І ніжні зрэз рабіце пад меншым вуглом — каб не зблытаць верх і ніз. «Алоўкі» рэжам толькі з сярэдзіны парастка. Верх і самы ніз адкідваем — яны з «дрэннымі» пупышкамі і да таго ж не выспелі.

Калі на кусце заўважалі налёты мучністай расы, парасткі не наразайце. Бярыце са здаровых кустоў. Для прафілактыкі акуніце іх на 5—10 хвілін у гарачую ваду (да 60 градусаў).

Кавалак глебы сонечны, добры ўгноены пад папярэднюю культуру. Але дадаткова ўнесці на кожны пагонны метр дзве лыжкі суперфасфату і шклянку прасеянага попелу. Ускапаць як найглыбей. А на штык лапаты — абавязкова. У мяккую (вільготную!) зямлю ўтыкаем «алоўкі» пад вуглом у 30—40 градусаў. Адлегласць паміж імі — 15—25 см. Верхняя пупышка (з яе пойдзе парастак) на ўзроўні глебы. Адразу мецім калком і прысыпаем торфам ці зямлёю (можна рачным пяском).

Ранняй вясною мульчу (торф, пясок, зямлю) зняць, па радках пасыпаць салетру (дзве лыжкі на два пагонныя метры) і падрыхліць, не кранаючы самі «алоўкі». Летам паліваць і падкормліваць.

Чырвоную парэчку, агрэст, ружы часцей гадуюць так званымі адводкамі. У час вегетацыі прыгнуць у баразёнку галінку, прымацаваць рагацінкай з лазы, прысыпаць зямлёю. Уверх «глядзіць» толькі кончык галінкі. Звычайна за два гады адбываецца поўнае акараненне.

Справа палепшыцца, калі мы на кары галінкі зробім пілкай з маленькімі зубамі лёгкія падоўжныя палоскі-надрэзы. Утварэнне каранёў будзе больш хуткае і кучнае.

*Размнажэнне парэчак: чаранкамі (зверху могуць быць і дзве пупышкі) і адводкамі галінак.*

## Для ўраджаю 97-га года

**Клапатлівы агароднік загадзя рыхтуе глебу для расады. Спадзяванні на тое, што можна набыць у магазіне «дзяржаўную», не заўсёды спраўджваюцца. Вось і сёлетняй вясной спецыяльнай зямлі для расады завозілася мала. А кошт яе быў надзвычай высокі — часам пяцізначная лічба.**

Ці можна мець сваю зямлю? Безумоўна! Ніякіх сакрэтаў тут няма. Пры гэтым кожны дачнік у стане зрабіць свой «кактэйль», які яго задаволіць на ўсе сто.

Агульныя патрабаванні да такой зямлі наступныя: высокі працэнтны састаў гумусу; рыхлая; утрымлівае элементы сілкавання (найбольш азот, фосфар, калій, мікраэлементы) у даступнай для раслін форме; мае нейтральную ці блізкую да яе рэакцыю; абавязкова чыстая (без узбуджальнікаў хвароб — асабліва грыбковага і віруснага паходжання).

Чыстая, амаль стэрыльная зямля знаходзіцца на лясных палянах і балотах. Калгасы штогод нарыхтоўваюць тарфакрошку. Бурты, якія праляжалі, скажам, лета і праветрыліся, — вельмі добры субстрат для нашай глебы. Расліны і карані, якія амаль разлажыліся, узбагацілі тую глебу азотам. Яго ў нарыхтоўках найбольш. Да такой зямлі трэба дадаць суперфасфат (на вядро паўшклянкі) і попел — дзве шклянкі на тое ж вядро. З угнаеннямі праблем не будзе. Каб субстрат быў больш рыхлы, яго «паляпшаюць» рачным пяском. Часам дабаўляюць да трэці. Чаму пажадана рачны? А ў ім вымыты ўсе шкодныя прымесі. Ён чысты. Для гэтай мэты (рыхласці глебы) можна выкарыстаць і пілавінне. Вядома, лепш тое, якое праляжала пад дажджом і пачало гніць. Калі ёсць выбар, спыніцеся на адходах распілоўкі дрэў ліставых парод. Цудоўны абагачальны элемент — гной з кароўніка. Асабліва калі падсцілалі дробнай саломай. У ім усяго дастаткова для развіцця раслін. Свежы гной пажадана з тыдзень настояць у чыстай вадзе.

Абясшкодзіць нарыхтаваную «прадукцыю» надзвычай проста. Яе ў жалезнай тары ставім на агонь. Амерыканскі даследчык Мітлайдэр лічыць, што загінуць усе ворагі толькі тады, калі гэту сумесь прагрэць пры тэмпературы 120 градусаў. Але можна і пры меншай — зямля не «булькае», а тэмпература недзе вышэй за 70—80 градусаў. Тэрмін прагравання больш працяглы.

Далей усю зямлю марозіць з месяц, адтаяць і яшчэ раз прамарозіць. Высокая і вельмі нізкая мінусавая тэмпературы знішчаць узбуджальнікаў хвароб і нават нешта з пустазелля.

Вось прапорцыі састаўных для расады:

| Субстрат | Нумары сумесяў (у працэнтах) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 |
| Торф | 60 | 50 | 20 | - |
| Пілавінне | - | 10 | 20 | 40 |
| Перагной | - | 10 | — | 20 |
| Рачны пясок | 30 | 20 | 30 | 10 |
| Каравяк | 10 | 10 | 30 | 30 |

Састаўныя можна мяняць. Добра зарэкамендавала сябе краціная зямля (хаткі) з верхавых чарназёмаў, ліставая зямля з-пад дубоў і бяроз, пясок з ям у 1-2 метры.

Да любой зямлі неабходны дабаўкі тукаў. На вядро гатовай сумесі ўнесці дзве лыжкі (з верхам) салетры, тры лыжкі суперфасфату, шклянку прасеянага попелу.

Попел багаты на мікраэлементы. Але некаторых (напрыклад, серы ці медзі) у ім мала. Недахоп ліквідуецца, калі ў вадзе растворым 10 г меднага купарвасу і столькі ж жалеза, па аднаму граму марганцоўкі і буравсу. А пасля раўнамерна выльем у сваю гатовую сумесь (на тры вядры), перамяшаем як найлепш.

Уласную «Дзвіну» для расады захоўваем на балконе, у хляве ў мяшках з поліэтылену. Грунт праглядаць.

## Цыбуля на доўгае захоўванне

**Кожны раз, калі выбіраем сваю горкую прадукцыю з грады, звяртаем увагу на шыйкі цыбулін. Калі яны без стрэлак, то гэта месца мяккае, эластычнае, навобмацак быццам пустацелае. І, наадварот, усякая пругкасць, патаўшчэнне, а яшчэ вельмі сакавітыя зрэзы — усё ўказвае на тое, што тут была ці збіралася быць стрэлка.**

Такія асобіны адразу адбракаваць, бо абавязкова сапсуюцца. Яшчэ бракаваць цыбуліны вялыя, тыя, дзе заўважылі гнілістыя («мокрыя») мясціны. Такія экземпляры выкарыстаць адразу.

Стрэлкі лёгка аддзяляюцца, калі цыбуліну разрэзаць зверху ўніз (па патаўшчэнню). Верх стрэлкі разам з мякаццю выкарыстаць у мясных булёнах; астатнюю здаровую частку — у салаты ці розныя іншыя нарыхтоўкі на зіму.

Сушка цыбулі доўжыцца недзе месяц-паўтара. Абавязковыя ўмовы: тэмпература вышэй за 30 градусаў і лёгкі ветрык (скразнячок). Ніякай вільгаці. Такія ўмовы бываюць пад паветкай з паўднёвага боку, на гарышчах (дах з шыферу ці з жалеза). Некалькі разоў цыбуліны перамяшаць, каб ніжнія асобіны трапілі наверх, а верхнія, наадварот, уніз. Слой цыбулі, вядома, не перавышае 10—15 см.

На спеласць прадукцыі ўказвае зноў тая ж шыйка. Яна абавязкова вельмі сухая, калі пакратаць, то адчуваецца пустэча. А як быць, калі знайшлі цвёрдую аснову? Вядома, яе выбракаваць і выкарыстаць пры першай жа магчымасці.

Так званую «сялянскую» цыбулю (яна ўтварае ад 5 да 12 цыбулін) можна плесці ў косы і падвешваць ля печы ці нават над печчу. Мноства жоўтага і вельмі сухога шалупіння засцерагае яе ад высыхання. Здараецца, такая прадукцыя захоўваецца нават да верасня наступнага года. Пасадзіце на граду — абавязкова выкіне зялёнае пяро.

Цыбулю з севака — асобіны буйныя — лепш захоўваць у халодным асяроддзі (але не мінусавым). Там, вядома, гуляе лёгкі ветрык. Калі гэтага няма, то такія ўмовы вентыляцыі стварыць штучна. Зноў жа можна плесці ў косы. Але не пашкодзяць і надзвычай рэдкія сетачкі, кошыкі, нават кардонныя каробкі. Такую цыбулю трэба вельмі частка пераглядаць. Калі заўважылі мушак, ці адчулі непрыемны пах, знайдзіце пашкоджаную цыбуліну. Выдаліце яе і тыя, што былі побач.

У першыя два месяцы і «сялянская» цыбуля, і тая, што расла з севака, не даюць зялёных стрэлак. Выключэнні з правіла вельмі рэдкія. Прадукцыя праходзіць абавязковы працэс стратыфікацыі. Значыцць, хворыя экземпляры спажываць адразу. А вось у студзені іх смела можна садзіць у зямлю на падаконнік. Папярэдне, вядома, зняць хворыя лісцікі, вымыць у гарачай (да 50 градусаў) вадзе. Гэта абясшкодзіць цыбуліны і надасць ім дадатковыя стымулы да росту.

## Алей з абляпіхі

**Пра яго мы гутарылі не адзін раз. Але пісьмы і званкі прымушаюць вяртацца да гэтай далікатнай справы зноў і зноў. Тым больш, што ў многіх садах спее (ці ўжо выспеў цудоўны ўраджай. Ад жоўта-аранжавых ягадак аж мільгаціць у вачах.**

Што нам трэба для вытворчасці абляпіхавага алею? Вядома ж, ягады! Яны павінны быць спелымі, налітыя. Абавязкова прамарозіць. Гэта можна зрабіць нават у халадзільніку. Можна і пачакаць, бо ў верасні, нават у першай палове здараюцца замаразкі. Як вучоныя-сіноптыкі кажуць, у паветры і на глебе. Прамарожаная прадукцыя лепш аддае лекі, у самой ягадзе адбываюцца працэсы, якія толькі на карысць справе. З ягад, якія не былі ў мінусавым асяроддзі (ад трох начэй да тыдня), якаснага прадукту не атрымаеце.

Далей неабходны звычайны алей, вада і газавая пліта ці сялянская грубка.

Прамарожаныя ягады ўсыпаць у эмаліраваную каструлю. На трэць заліць алеем. Уставіць у большую каструлю з гатаванай вадою — так званая вадзяная лазня. Паставіць на пліту і паўгадзіны хай кіпіць вада. Ягады павінны разапрэць. Усё крыху астудзіць і «месіва» з малой каструлі адкінуць на дробнае сіта, марлю ў некалькі столак ці анучку з лёну. Пацікху адціснуць у міску ці талерку. Тое, што застанецца (костачкі, скуркі, частка мякаці) зноў перакінуць у меншую каструлю і яшчэ на 30 ці крыху больш хвілін змясціць у тую ж «вадзяную лазню». Зноў заліць тым жа алеем. Пасля яшчэ раз адціснуць. Можна зверху пакласці цяжар — як пры вырабе сялянскага сыру.

Адходы мінімальныя. Усё, што засталося, два разы прапусціць праз мясарубку. Кашку апошні, трэці раз заліць алеем і паставіць на агонь у большай каструлі з вадою. Зноў працадзіць. Мы атрымалі прадукцыю, у якой шмат жаданага для нас абляпіхавага алею.

Усё, што атрымалі, зліць у нейкі шкляны слоік (паўлітровы, адна ці двухлітровы). Не чапаць 6 гадзін — хай адстойваецца. Абляпіхавы алей усплыве — ён лёгкі. Крыху ніжэй будзе слой мутных адходаў. А ў самым нізе, на донцы, акажацца сок абляпіхі — самы цяжкі. Алей як мага больш акуратна зліць ці зняць лыжкай. Можна выкарыстаць нават трубачку з гумы. У шкляной тары закатаць і пастэрызаваць.

Ці многа атрымаем алею? Не, няшмат — усяго недзе сем працэнтаў ад масы. Але гэта будзе цудоўны лекавы сродак, ледзь не ад усіх ўсіх хвароб, да таго ж ён утрымлівае карацін і мноства вітамінаў.

Што рабіць з рэшткамі? Выкарыстайце іх у розных соках, кампотах, салатах і г. д. Як бы мы старанна не «ціснулі» алей, нешта ды застанецца незапатрабаваным.



# РЭШТА

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

## ЯК НАС УВОДЗІЛІ Ў ЗМАН ЛАТВІЙСКІЯ ЛАТЫ,

### або Чаму дэмакратыі ўсім трэба вучыцца. А беларусам — найбольш

**1**

За савецкім часам Рыжскае ўзбярэжжа практычна без праблем мог наведаць любы грамадзянін Саюза і за даволі сціплыя грошы папесціць сваё цела ў белым пясочку, акунуцца ў халаднаватыя воды Балтыйскага мора, паслухаць рокат марскога прыбою, пачаставацца далікатэсамі ў маленькіх рэстаранчыках.

Для беларусаў асабліва прывабнай была Юрмала, бо тут працаваў санаторый «Беларусь». У гэтым райскім кутку ён і цяпер знаходзіцца. Але беларусаў тут, як мы зразумелі, адпачывае сёлета няшмат. Пуцёўка сюды каштуе вельмі дорага, і таму не кожны можа падлячыцца і адпачыць у Юрмале. Хіба што багатыя людзі, альбо тыя, хто бліжэй да ўлады. Як вядома, з-за гэтага санаторыя: чыёй уласнасцю ён з'яўляецца — беларускай ці латвійскай — узнікла непаразуменне паміж нашымі дзяржавамі. Вырашана яно было на карысць Беларусі. Праўда, цяпер санаторый «Беларусь» у Юрмале прымае на аздараўленне штомесяц па 200 хлопчыкаў і дзяўчынак з чарнобыльскай зоны. Так, ва ўсякім разе, паведаміў галоўурач санаторыя Хведар Бараноўскі ў інтэрв'ю газеце беларусаў Латвіі «Прамень». На жаль, пабываць у санаторыі нам не давялося. Бо прыехалі мы не адпачываць, а на семінар. Але ў Юрмалу, вядома ж, вырваліся — на гадзіну-дзве.

Наш гід, супрацоўніца фонду Яна Райніса і Аспазіі, белавалосая Джына Тэрмінэ патлумачыла:

— Сёлета адпачываючых у нас зусім мала. Бачыце, пляж амаль пусты... Лета халаднаватае... Ды і дорага тут — цэны сусветныя.

Цэны ў Латвіі сапраўды сусветныя. А Рыга, да таго ж, лічыцца вельмі дарагім горадам. Фонд Райніса і Аспазіі, які запрасіў нас на семінар, наладзіў у першы дзень урачыстую вячэру. У маленькім, стылізаваным пад вясковую латвійскую хату памяшканні нас частавалі сялянскім баршчом, бобам, бульбай у лупінах і традыцыйным... півам. Пасля двух вялізных куфляў удзельнікі семінара пачалі спяваць. Але з'яўленне музыканта з вялікім саксафонам перабіла гэтыя планы.

Фонд Райніса і Аспазіі — небагатая арганізацыя. Размясцілі нас у гатэлі з прыгожай назвай «Вікторыя». Нумары хутчэй падобныя на студэнцкія пакоі. Камфартабельна жыў толькі швед, які таксама прыбыў на семінар. Вядомая справа — швед проста не зразумеў бы, чаму ў яго пакоі няма прыбіральні і душа. А мы зразумелі.

На сняданак і вячэру нам выдалі па 2 латы. Пасля беларускіх тысяч падобныя на савецкія капейкі грошы нас уразілі. І гэта моцна збівала пазней з панталыку, калі ў вітрынах значыліся, здавалася б, такія невялікія цэны — 1, 3 ці 5 латаў. А між тым, адзін лат каштуе каля 2,6 долара. Перавядзеш долары ў свае, беларускія, і за галаву схопішся: дарагоўля!

Пра сучаснае жыццё ў Латвіі тое-сёе даведваліся ад знаёмых. Наш шафёр, напрыклад, сказаў, што мае вельмі сціплую зарплату — 60 долараў. І мусіць трымацца за яе, хаця працаваць даводзіцца і ў выхадныя. Алесь Карпавіч, старшыня таварыства беларускай мовы «Прамень» у Рызе, напрыклад, паведаміў:

— Мы жывём з жонкай удваіх у аднапакаёвай кватэры. Яе пенсія ідзе на аплату жылля, а мая — на харчаванне. Калі што здарыцца з адным з нас — хоць памірай.

Мясцовая латышка, артыстка вар'етэ, даволі непатрыятычна заявіла, што марыць хутчэй з'ехаць адсюль у Швецыю ці ў якую іншую заходнееўрапейскую краіну, бо новыя ўлады, на яе думку, клапоцяцца толькі пра сябе, свой дабрабыт, а ніякай справядлівасці як не было, так і няма.

Дарэчы, па статыстыцы службы міграцыі, з краіны з'ехалі ў апошнія гады вядомыя пісьменнікі, спецыялісты электроннай прамысловасці, вучоныя. І гэта тэндэнцыя пачала непакоіць кіраўніцтва краіны. «Прэзідэнт Ульманіс, які ў свой час быў дырэктарам Дома быту ў Рызе, — як з'едліва піша адна мясцовая газета, — прыкладае тытанічныя намаганні, каб кантраляваць сітуацыю ў грамадстве, выпускаючы ў небяспечныя моманты пару з катлоў».

Зразумела, што рэзкае пагаршэнне ўзроўню жыцця пераважнай большасці насельніцтва выклікае і нездаволенасць, і жаданне вярнуцца да тых часоў, калі ўсе даброты размяркоўвала ўлада. Сярод рускамоўных жыхароў Рыгі, а іх тут даволі значная колькасць настальгічныя настроі па быламу даволі распаўсюджаныя.

**2**

Фонд Райніса і Аспазіі, як паведаміў нам Яніс Магурэвіч, яго старшыня, а таксама старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі Латвіі, вырашыў супрацоўнічаць з беларусамі таму, што Беларусь, як і Латвія, зведвае пэўныя цяжкасці на шляху да дэмакратычнага грамадства.

Цяпер некалькі слоў пра сам фонд. Ён быў створаны пасля смерці Аспазіі, вядомай латвійскай паэтэсы, жонкі Райніса, заснавальніцы жаночага руху ў краіне. Да 1990 года гэты фонд працаваў у эміграцыі, а пасля абвяшчэння Латвіяй незалежнасці вярнуўся ў Рыгу, а таксама пашырыў і паглыбіў накірунак сваёй дзейнасці. Цяпер вельмі актыўна займаецца нефармальнай народнай адукацыяй. У Фонд Райніса і Аспазіі ўваходзяць самыя розныя арганізацыі — маладзёжныя, жаночыя, пенсіянераў, інвалідаў, а таксама Аб'яднаная сацыял-дэмакратычная партыя Латвіі.

У ажыццяўленні праекта, пра які пойдзе далей гаворка, удзельнічаюць тры грамадскія арганізацыі — Фонд Райніса і Аспазіі з Латвіі, Фонд імя Льва Сапегі з Беларусі і грамадская арганізацыя са Швецыі ABF, што азначае Саюз навучання працуючых. З латвійскага боку ў семінары прымаў удзел Яніс Магурэвіч, старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі Латвіі, Улдзіс Берзіньш, вядомы паэт, член Кансультатыўнага савета па нацыянальных пытаннях пры прэзідэнце Латвіі, а з беларускага: ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — Андрэй Завадскі і Міхась Чарняўскі, ад савета беларускіх Свабодных прафсаюзаў — Генадзь Быкаў, Павел Майсіевіч, Дзмітрый Абразцоў, Яўген Пуськоў і Святлана Уэльская.

**3**

А цяпер аб прынцыпах і ідэях нефармальнай адукацыі. Што гэта ўвогуле такое? Пан Эверт Андэрсан са шведскай арганізацыі ABF, які з'яўляецца яе актыўным дзеячам, адзначыў, што сістэма навучання ў ABF у корані адрозніваецца ад школьнай. Людзі, якія навучаюцца тут на курсах, у гуртках, у час семінараў, самі вызначаюць, на чым трэба засяродзіцца. Адным, напрыклад, трэба разабрацца, што такое калектыўны дагавор, другім — вывучыць працоўнае заканадаўства, трэцім — заняцца замежнай мовай або камп'ютэрам. Па сутнасці, усе грамадзяне, што ўваходзяць праз свае арганізацыі ў ABF, у працэсе навучання авалодваюць ведамі аб функцыянаванні дэмакратычнага грамадства. З дапамогай такіх арганізацый у Швецыі фарміруецца грамадская думка, якая можа ўплываць і на ўладныя структуры.

Дарэчы, гісторыя Швецыі, якая яшчэ ў пачатку 20-х гадоў не была ўвогуле дэмакратычнай краінай — жанчыны там атрымалі права голасу толькі ў 1921 годзе, — можа быць павучальнай для краін, якія нядаўна сталі на шлях дэмакратыі. Нашто выдумляць веласіпед, калі ён даўно ўжо створаны?

Слова «дэмакратыя», як вядома, у перакладзе азначае літаральна «ўлада народа». У Швецыі, якраз дзякуючы сістэме нефармальнай народнай адукацыі, у якую аказаліся ўцягнутымі практычна ўсе сацыяльныя слаі насельніцтва, быў прыцягнуты рабочы рух, прафсаюзы, спартыўныя арганізацыі, жаночыя, кватэранаймальнікаў, інвалідаў — і была ажыццёўлена максімальная ўлада народа.

Арганізацыя ABF прапагандуе тэзіс, што ўсе грамадзяне краіны пастаянна павінны авалодваць новымі ведамі. Тыя, хто ігнараваў гэту параду, а імі былі ў асноўным людзі ва ўзросце 40—50 гадоў, аказаліся беспрацоўнымі.

Пан Андэрсан, дарэчы, заўважыў, што ён зусім нічога не ведаў пра Беларусь да паездкі на семінар. Але пасля знаёмства з беларусамі, ад якіх ён даведаўся пра сацыяльна-палітычнае і эканамічнае становішча ў гэтай краіне, дазволіў сабе параду: «Ніколі нельга ў такіх сітуацыях, як у вашай краіне, сядзець і разважаць пра тое, што ўсё павінны зрабіць палітыкі. Трэба спадзявацца толькі на сябе — на прафсаюз, на партыю, на сваё аб'яднанне. Самі людзі мусяць зразумець, што яны могуць змяніць сваё жыццё, таму што дэмакратыя — гэта не толькі выбары, парламент, але і актыўная дзейнасць кожнага члена грамадства».

Не сакрэт, што беларускае грамадства сёння ў асноўнай сваёй масе вельмі інертнае. Народнай, нефармальнай адукацыі на Беларусі як сістэмы не існавала і не існуе. Як зазначыў на семінары прадстаўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Міхась Чарняўскі, у свой час рабіліся некаторыя намаганні ў гэтым накірунку, але на ўзроўні самадзейнасці.

**4**

Пісаць пра семінары, усякія нарады — няўдзячная праца для журналіста: няма жывога матэрыялу. Але тэма семінару ў Рызе, як мне здаецца, надзвычай актуальная для сённяшняй Беларусі, для любога яе жыхара. Таму што па нейкай старой завядзёнцы жыве беларус па прымаўцы: «Мая хата з краю», няхай за мяне вырашаюць начальнікі, міністры, дэпутаты, нарэшце — прэзідэнт. А калі жыццё становіцца невыносным, пачынаюць пісаць лісты са скаргамі ў газеты, у розныя інстанцыі.

У прэсе даволі часта з'яўляюцца артыкулы, дзе сцвярджаецца, што Беларусь, маўляў, тыповая еўрапейская краіна. На жаль, толькі па геаграфічнаму становішчу.

Варажба на картах ці на кафейнай гушчы не падказваюць, калі Беларусь увойдзе паўнапраўным членам у Еўрапейскі саюз. Адзін з асноўных прынцыпаў гэтага саюза — прынцып дэцэнтралізацыі, перадачы дзяржаўных функцый на ніжнія ўзроўні кіравання, самакіравання. Такім чынам дзяржава разгружаецца ад неўласцівых ёй функцый, а з другога боку — павышаецца самасвядомасць і актыўнасць грамадзян і яны могуць больш асэнсавана прымаць рашэнні. І ўплываць праз грамадскую думку, праз свае дзеянні на тую ці іншую палітыку, на жыццё ў сваёй краіне. У нас гэты прынцып не вытрымліваецца і назіраецца адваротны працэс — канцэнтрацыя ўлады. Улада дае зразумець сваім грамадзянам, што пра ўсё будзе клапаціцца дзяржава, а грамадзяне павінны падпарадкоўвацца яе волі.

Толькі куды вядзе гэты шлях?

**Таццяна АНТОНАВА.**

## ФІЛЬМАТЭКА

- **«ПАНЕНКА-СЯЛЯНКА»**
- **«МЕЧАНОСЕЦ»**
- **«СТАН СЭРЦА»**
- **«ВАН ДАМ -- ВУЛІЧНЫ БАЕЦ»**

**Новую мастацкую кінастужку «Паненка-сялянка», створаную рэжысёрам Аляксеем Сахаравым, перадае на суд гледачоў кінастудыя «Масфільм».**

Даўно заўважана, што, калі самі пракатчыкі цалкам запоўнілі залу і не пакінулі яе да самага канца фільма, ён будзе мець поспех і ў гледача. Так было ў час паказу па адным з апошніх кінарынкаў «Паненкі-сялянкі», маляўнічай, поўнай тонкага гумару і іроніі карціны. Пастаўлена яна па аповесці А. С. Пушкіна, вядомай кожнаму з дзяцінства.

Запамінальныя вобразы ствараюць у карціне Алена Корыкава, Дзмітрый Шчарбіна, Леанід Кураўлёў, Васіль Ланавой, Кацярына Рэднікава, Людміла Арцем'ева.

**У ЗША знята мастацкая кінастужка «Мечаносец». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Майкл Кенэдзі.**

Легенда, на якой пабудаваны сюжэт гэтага трывіяльнага баевіка, гаворыць аб тым, што 2300 гадоў назад Аляксандр Македонскі атрымаў у спадчыну меч, які быў благаславёны самім Апалонам. З гэтым мячом ён адчуваў сябе непераможным і, паміраючы, завяшчаў пахаваць яго разам з ім, таму што быў перакананы, што ўваскрэсне зноў і скарыстае меч у новым жыцці.

І вось праз шмат стагоддзяў археолагі знайшлі ў раскопках талісман вялікага палкаводца. Знаходка належыць аднаму з самых вядомых археолагаў краіны — гераіні фільма Джуліі. Ёй задумана грандыёзная выстава, на якой галоўным экспанатам і павінен быць легендарны меч. Вядома, што цана гэтага экспаната велізарная. І таму знаходзяцца вопытныя людзі, якім змаглі ўкрасці яго. Джулія звяртаецца ў паліцыю, якая прыступае да справы.

У галоўных ролях выступаюць Ларэнца Ламас, Клер Стэнсфілд, Чайкл Чэмпіён, Ніколас Паско, Рауль Трухільё.

**У кінарэпертуары рэспублікі значыцца таксама амерыканская кінакарціна «Стан сэрца». Яе паставіў па свайму сцэнарыю рэжысёр Джэймс Д. Парыёт.**

Героі гэтай гісторыі амаль класічныя. Ёсць нейкі містэр Грэм, дзялок ад наркабізнесу, вядома ж, мярзотнік якога пашукаць. Ёсць у фільме і непрымірымы працаўнік Грэма, супрацоўнік паліцыі нораваў Джэк Муні, чалавек суровы, мужны і грубаваты. Ён любіць Крыс, але яна пайшла ад яго да іншага, і пакінуты паліцэйскі ціха сумуе. Пакуты кахання, вядома, не шкодзяць Муні разам з калегамі праследаваць Грэма, не губляючы надзеі, што ўдасца нарэшце злавіць яго.

**Змогуць паглядзець гледачы і амерыканскую мастацкую кінастужку «Ван Дам — вулічны баец». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Стывен дэ Соўз.**

Мода паддобрывацца да гледача з першых кадраў, пачынаючы карціну як бы дакументальным рэпартажам з месца крывавых падзей, — нязменная. Прычым усё часцей актыўным і трагічным удзельнікам дзеяння становіцца сам тэлерэпарцёр, у дадзеным выпадку журналістка па імені Чун Лі, у роўнай ступені заклапочаная пошукамі сенсацыйнага матэрыялу і прагай помсты каварнаму Байсну, які забіў яе бацьку — адважнага суддзю. Са сваёй камандай, у якой усе ўмеюць біцца, Чун Лі трапляе ў логава злодзея, а затым — у палон. Але дзявоцкі гераізм — толькі палкі ў колах для мужнага камандуючага саюзнымі войскамі палкоўніка Глайна, які хоча сваімі рукамі пусціць кроў нягодніку Байсну, які захапіў заложнікаў і патрабуе выкуп у 200 млрд. долараў. Па пеленгу, перададзенаму нястомнай журналісткай, Глайн засякае стаўку злодзея і кідаецца ў няроўны бой.

У галоўнай ролі — легендарны Жан-Клод Ван Дам.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 4 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** ШАНС. Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**8.45** «Буронка з Маслёнкіна». Мультфільм.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 6-ы клас. «Песня — душа народа». Беларускія народныя песні ў літаратурным чытанні.
**9.30** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял. 3-я серыя.
**10.30** Відзьма-нявідзьма.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Апошнія чараўнікі», «Новы Аладзін», «Дым карамыслам». Мультфільмы.
**16.10** «Уніз па Волзе-рацэ». Фільм-канцэрт.
**16.40** Творцы. Паэт Алег Атаманаў.
**17.15** Госці ў хату. Невядомая Турцыя.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Планета не толькі людзей». Дак. фільм.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па адным». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** «Дзяжурная аптэка». Тэлесерыял. 4-я серыя.
**20.00** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.05** Супергол.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Аўта-парк.
**22.10** Мікалай Яроменка-малодшы ў тэлевізійным чатырохсерыйным маст. фільме «Чырвонае і чорнае». 1-я серыя.
**23.30** Каралеўскае паляванне.
**0.10** Навіны.

**ГРТ**

**8.00** Навіны.
**8.15** «Новая ахвяра».
**9.05** Тэма.
**9.50** «У свеце жывёл».
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.00** Навіны.
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір».
**11.50** «Уладзімір Івашоў. Каб помнілі...»
**12.35** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**13.30** Каханне з першага погляду.
**14.00** Навіны.
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.45** Кактус і К.
**14.55** До-мі-соль.
**15.10** Покліч джунгляў.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** Тэт-а-тэт.
**16.30** «Вакол свету».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** «Каб помнілі...»
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Таццяна Самойлава і Васіль Ланавой у фільме «Ганна Карэніна». 1-я і 2-я серыі.
**23.15** Навіны.
**23.25** «З рэпертуару Аляксандра Вярцінскага».

**«Расія»**

**6.00** Ранішні экспрэс.
**6.30** «Мак і Матлі».
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**7.20** Ранішні экспрэс-2.
**7.50** Час дзелавых людзей.
**8.00** Раз на тыдзень.
**8.30** «Дарагая рэдакцыя...»
**9.00** «Санта-Барбара».
**9.50** Тавары — поштай.
**10.20** «Новыя прыгоды няўлоўных». Маст. фільм.
**16.20** «Хто на што здатны».
**16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Залежыць ад цябе.
**17.15** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.25** Даміно Міхаіла Баярскага.
**17.55** Суайчыннікі.
**18.25** Ваша права.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.25** «Аншлаг» прадстаўляе» : А. Панкратаў-Чорны ў праграме «Бочка мёду».
**20.55** Надвор'е на заўтра.
**21.00** «Мяшчэрскія». Маст. фільм.
**22.30** «Сем пісьмаў з Ніжняга». Праграма Н. Зверавай.
**22.45** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.20** Тэлемагазін.
**23.30** Адамаў яблык.
**0.15** «Не спі і глядзі». Начная музычна-забаўляльная праграма.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.10, 24.00** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.00** Тэрмін адказу — сёння.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**14.10** «Жыццё Кліма Самгіна». Шматсерыйны маст. фільм. 1-я серыя.
**15.15** Фарух Рузіматаў: «Жыву, пакуль лятаю».
**16.05** «Падарожжа па Японіі». Тэлефільм (Японія).
**16.35** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Стыль жыцця.
**17.05** «Солці». Маст. фільм для дзяцей. 2-я серыя.
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** «Экалогія Пецярбурга сёння». «Круглы стол».
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Жыццё Кліма Самгіна». Шматсерыйны маст. фільм. 1-я серыя.
**22.25** «Салодкая жанчына». Маст. фільм.

**НТБ**

**6.00, 13.00** Сёння.
**6.20** Маст. фільм «Цудоўныя гады».
**6.45** «Вялікі чалавек». Серыял. 5-я серыя.
**7.35** Маст. фільм «Сведка».
**9.05** Дак. фільм «Успомнім тыя гады. 1957».
**9.50** Мультфільм «Формула-1».
**10.00** Маст. фільм «Далёка ад дома» (ЗША).
**11.45** «Каралеўства». 2-я серыя.
**12.35** Доктар Вугал.

**Расійскія універсітэты**

**14.40** «Узрост кахання. Юнак». Дак. фільм аб палавым выхаванні.
**14.50** На «Славянскім базары» з Надзеяй Бабкінай. «Я люблю вас, Людміла Зыкіна».
**15.05** «Тайны Маскоўскага Крамля». Дак. фільм. 3-я серыя.
**16.00** Музычныя навіны.
**16.10** Цішыня № 9. «Метраполіс».
**16.40** Навіны.

**НТБ**

**17.00** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.
**18.00,**
**21.00,**
**23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Анук Эме і Майкл Йорк у фільме Ежы Скалімоўскага «Поспех як лепшая помста» (Вялікабрытанія).
**20.40** Доктар Вугал.
**21.35** «Каралеўства». 3-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.



# ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА*

**ГАДАВЫ КОНКУРС СКЛАДАННЯ**

**Заданне № 15**
*Віктар Ваўнейка (Мінск) (прысвячаецца Вацлаву Гебельту)*

**Белыя**: Кра7, Фс3, Cd3, Cg7, Kd4, п. f6 (6)
**Чорныя**: Крg8, Лh3, Ка4; пп. с5, е6 (5)
Мат за 3 хады.

**Заданне № 16**
*Вадзім Іваноў (Мінск)*

**Белыя**: Крg8, Ла5, Лh7, Kg5, Kh3, Ca8; пп. а2, d6, е3, f2, f5, g3 (12)
**Чорныя**: Крh1, Лg2, Се7; пп: а6, с4, е6, h2 (7)
Мат за 3 хады

**РЭХА «ПАН ВЯЛІКІ НОЎГАРАД-96»**

У Ноўгарадзе закончыўся вельмі прадстаўнічы турнір, які па саставу яго ўдзельнікаў атрымаў 19-ю і пакуль што найвышэйшую катэгорыю ФІДЕ.

Пераможцам стаў В. Тапалаў (Балгарыя), які набраў 6 ачкоў. Другое месца — В. Іванчук (Украіна) — 5,5, трэцяе — Н. Шорт (Англія) — 5, 4—6 месцы — Ю. Полгар (Венгрыя), Б. Гельфанд (Беларусь) і У. Крамнік (Расія) — па 4,5 ачка.

Турнір праходзіў у два кругі. У ім было згуляна шмат цікавых партый.

Прыводзім тры партыі з турніра «Пан Вялікі Ноўгарад-96».

**Ю. Полгар — У. Крамнік**
*Сіцыліянская абарона*

1. е4 с5 2. Kf3 Kc6 3. d4 cd 4. K:d4 Kf6 5. Kc3 d6 6. Cc4 Фb6 7. Kb3 e6 8. Cf4 Ke5 9. Ce2 Cd7 10. Ce3 Фс7 11. Фd4 Ce7 12. f4 Kg6 13. 0-0-0 0-0 14. g4 e5 15. Фd2 ef 16. C:f4 Лfc8 17. Kd4 Фa5 18. Kb3 Фс7 19. Kd4 Фa5 20. Kb3 і згадзіліся на нічыю.

**Б. Гельфанд — В. Іванчук**
*Абарона Грунфельда*

1. d4 Kf6 2. Kf3 g6 3. c4 Cg7 4. Kc3 d5 5. cd K:d5 6. e4 K:c3 7.bc c5 8. Лb1 0-0 9. Ce2 cd 10. cd Фа5+ 11. Cd2 Ф:а2 12. 0-0 b6 13. Cg5 Cb7 14. Лс1 C:e4 15. C:e7 Ле8 16. Cc4 Фа5 17. Cc5 bc 18. Kg5 Ле7 19. K:e4 Kd7 20. dc Лd8 21. Cd5 Kf6 22. K:f6 C:f6 23. Фf3 Cg5 24. Лс2 Лс7 25. Cb3 Фb5 26. Cc4 Фа4 27. Cb3 Фb5 28. Cc4 Фа4 29. Фе4 Крf8 30. Cd5 Ф:е4 31. C:e4 а5 32. Лс4 і згадзіліся на нічыю.

**Н. Шорт — В. Тапалаў**
*Сіцыліянская абарона*

1. e4 c5 2. Kf3 d6 3. d4 cd 4. K:d4 Kf6 5. Kc3 g6 6. Ce3 Cg7 7. f3 0-0 8. Фd2 Kc6 9. Cc4 Cd7 10. 0-0-0 Лс8 11. Cb3 K:d4 12. C:d4 b5 13. Kd5 K:d5 14. C:d5 C:d4 15. Ф:d4 Фс7 16. c3 a5 17. Крb1 Фс5 18. Лhe1 Лfd8 19. a3 Ф:d4 20. Л:d4 Крf8 21. Ле3 Лс7 22. g3 Лb8 23. f4 Cc6 24. C:c6 Л:c6 25. e5 de 26. Л:e5 e6 27. a4 ba 28. Кра2 Лсb6 29. Лd2 Ла6 30. Ле4 Лb5 31. Л:а4 Лb6 32. c4 Лb4 33. Л:b4 Л:b4 34. b3 a4 35. Кра3 Л:b3+ 36. Кр:а4 Лс3 37. Крb4 Лс1 38. c5 Кре7 39. Крb5 f6 40. c6 e5 41. fe fe 42. Крb6 e4 43. Лd7+ Крf6 44. Лd8 e3 45. Ле8 Лb1+ 46. Кра7 Ла1+ 47. Крb7 Лb1+, і згадзіліся на нічыю.

## ВІНШАВАННІ

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння дарагога сыночка Васіля Уладзіміравіча Лугінца. Жадаем усяго самага найлепшага.*

**Мама, тата,** *г. Светлагорск.*

Сардэчна віншуем з днём нараджэння дарагога мужа і тату Міхаіла Алфёрава. Жадаем моцнага здароўя, заўсёды быць такім жа жаданым і любімым.

**Жонка і дзеці,** *в. Масцішча, Навагрудскі раён.*

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Серафіму Аляксееўну Ляўкевіч з в. Нянькава. Жадаем моцнага здароўя і шчасця.*

**Муж, брат, пляменніцы.** *Навагрудскі раён.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».
Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4982.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12